
журавы
ПЕСНЯ НЕ МАЕ ГРАНІЦ

У ПОШУКАХ ЯЦВЯЖСКІХ СЛЯДОЎ

ДЗВЕ ТАПОЛІ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (507) | ГОД X | 14 ЛІСТАПАДА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.


## Давайце падыскутуем аб БГКТ

На апошнім VI-тым Пленуме ГП БГКТ, якое адбылося 24.X. г.г., некалькі дыскутантаў закраналі пытанні аб рэарганізацыі некаторых напрамкаў дзейнасці нашага таварыства. Для большасці прысутных думкі гэтыя не былі нейкай нечаканасцю. Дзесяцігадовы адрэзак часу дазваляе ўжо правесці аналіз і выпрацаваць больш рацыянальныя кірункі працы. Таму ў дакладзе нароўні з іншымі праблемамі была пастаўлена на павестцы дня справа запачаткаваная шырокай перадз'ездаўскай дыскусіяй. Іаказалася, што дастаткова было некалькіх сказаў, каб уцягнуць у яе прысутных членаў ГП. Сведчыць гэта аб нашай дынамічнасці, арганізацыйнай жывучасці, а адначасова недасканаласці. Не маючы вопыту працы нацыянальных таварыстваў ва ўмовах народнай улады мы ўспрынялі часткова міжваенную грамадаўскую арганізацыйную сістэму, пачалі яе прыбліжаць да адміністрацыйных улад, параскідвалі свае скромныя сілы і не асягнулі тут больш сур'ёзных вынікаў. Ізноў іншыя эфектыўныя галіны працы асталіся абапертыя на курынай ножцы. Вось некалькі прыкладаў.

БГКТ лічыцца адным з першых на Беласточчыне творчых выдавецтваў. Да канца гэтага года будзе мець 18 самастойна апрацаваных кніжных пазіцый, якія разышліся не толькі на Беласточчыне ці ПНР, але і за граніцай у БССР, РСФСР, УССР. Прыбалтыйскіх рэспубліках, Заходняй Еўропе, Амерыцы і Аўстраліі ў агульным ліку 84 тысячы кніжак. Сюды ўваходзілі традыцыйныя календары, літаратурныя і навуковыя публікацыі.

Ёсць апрача гэтага многа рэпертуарных выданняў для аматарскіх гурткоў, ёсць каля 100 літаратурных старонак. Але зараз няма ў ГП ніводнага працаўніка, які б групаваў матэрыялы, рыхтаваў іх да друку. Робіцца ўсё грамадска, часта несістэматычна, а штаты накіраваны згодна з пажаданнямі ГП на іншыя напрамкі дзейнасці.

Другім прыкладам нашай працы абапертым не ведама на чым ёсць арганізаванне супольна з белавежскім ГС-ам рэгіянальнага музея матэрыяльнай культуры. Дарыўча зрабілі мы ўжо даволі многа: адрамантавалі будынак, сабралі звыш 400 цэнных экспанатаў, пачалі рыхтаваць іх экспазіцыю. Канца запачаткаванай працы — не

(Працяг на стар. 2)



Праф. др Ніна Каменская (справа) ў часе гутаркі з сакратаром ГП ТППР Эдвардай Арлоўскай падчас перапынку ў абрадах грамадаўскай сесіі.

Фота: Ян Мазурэк

## БЕЛАРУСКІ ВУЧОНЫ Ў БНТ

23 кастрычніка г.г. у памяшканні «Дома тэхніка» ў Беластоку сустрэліся члены Беластоцкага навуковага таварыства з вядомым беларускім гісторыкам дырэктарам Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук праф. др Нінай Каменскай. Праф. др Ніна Каменская ўжо неаднаразова была ў Беластоку, яна актыўна супрацоўнічае з Беластоцкім навуковым таварыствам, з'яўляецца рэчаісным членам гэтага таварыства і, як падкрэсліў на сустрэчы генеральны сакратар БНТ др Ежы Антаневіч, выпрабаваным сябрам. Праф. др Ніна Каменская зрабіла даклад на тэму «Гістарычныя доследы над мінулым беларускага народа». Даклад выклікаў вялікае зацікаўленне. Прысутныя даведаліся аб шматлікіх доследах беларускіх гісторыкаў над вывучэннем гісторыі Беларусі які ў новым святле ставяць польска-беларускія сувязі ў мінулым, паказваюць на даўнасць дружбы і сяброўства двух братніх народаў. Дыскутанты сцвярджалі, што паміж беларускімі і польскімі гісторыкамі неабходна наладзіць шырэйшыя кантакты.

Варта адзначыць, што праф др Ніна Каменская ў гэтым жа дню была госцем ГП БГКТ, а днём раней удзельнічала ў навуковай сесіі прысвечанай Грамадзе.

Юрэ

## АБ ГРАМАДЗЕ НА СЕСІІ



Прэзідыум сесіі. З уступным словам выступае сакратар ВК ПАРП Вітальд Мікульскі, які і вёў абрады сесіі.

Беларуская сялянска-работніцкая Грамада. З'ява па многіх прычынах у міжваенным рэвалюцыйным руху вельм асаблівая. Існавала коратка — ад чэрвеня 1925 года па люты 1927 года. Гэты час, як кропля вады ў моры, не лічыцца ў гісторыі. Аднак Грамада сваёй бурнай і разнастайнай дзейнасцю моцна закаранілася ў гісторыі.

Зразумеў я гэта сочачы ход папулярна - навуковай сесіі прысвечанай існаванню і дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Сесію 27 кастрычніка г.г. супольна наладзілі ў Беластоку **Ваяводскі камітэт ПАРП і Галоўнае праўленне БГКТ.**

У прасторнай канферэнцыйнай зале Ваяводскага камітэта сустрэліся два пакаленні: людзі старэйшыя — сведкі і стваральнікі падзей грамадаўскага перыяду і маладыя — людзі якіх сталасць даспявала ва ўмовах народнай улады якія пра Грамаду даведаліся ад бацькоў з кніжак або сачылі за яе гісторыяй у запыленых архівах. Сустрэліся абмяняцца ведамі.

Старшыня сесіі, сакратар прапаганды Ваяводскага камітэта, тав. **Вітальд Мікульскі,** прывітаўшы сардэчна ўсіх прысутных, дае голас першаму дакладчыку, прафесару **Язэпу Кавальскаму.** Даклад яго вельмі цікавы і змястоўны. Цяжка ў некалькіх сказах пераказаць хаця асноўныя думкі і праблемы, якія ён закрануў. Прафесар Я. Кавальскі сцвярджае, што Грамаду стварыла несамавiтая бяда і галеча, якія царствавалі на тэрыторыі тадышняй Заходняй Беларусі. Маёнткі Радзівілаў, Сапегаў і другіх графаў ды князёў займалі там звыш 3 мільёнаў 700 тысяч гектараў. Беларускім сялянам заставалася 3,8% усёй зямельнай плошчы. У спалучэнні з жорсткім нацыянальным прыгнётам і праграмнай, насільнай паланізацыяй Заходняя Беларусь была жывым вулканам бунту супраць існуючых парадкаў. Так масавага сялянскага руху ў той час не наглядалася ў ніводнай еўрапейскай краіне. Прафесар Я. Кавальскі шмат увагі прысвяціў адносінам польскіх камуністаў да вызваленчай барацьбы беларускага люду. Грамада, гаварыў дакладчык, заўсёды карысталася шчырай падтрымкай камуністаў, аднак ніколі не была яна легальным філіялам кампартыі, што намагаліся даказаць яе ворагі.

(Працяг на стар. 4)



Удзельнікі сесіі. На першым плане (у акулярах) швагер Тарашкевіча Геранім Янкоўскі, які жыве цяпер у Эльблангу.

### на шырокім свеце

# Амерыканская разведка—твой вораг

У канцы ліпеня з Каіра спешна выехаў амерыканскі дыпламат Одэл. Для гэтага былі ў яго даволі важкія прычыны: егіпецкім уладам стала вядома, што грамадзянін ЗША з дыпламатычным пашпартам займаўся шпіёнскай дзейнасцю.

Гэта не адзін факт.

«Амерыканская разведка — твой вораг» — пад такім загалоўкам у Каіры нядаўна выйшла кніжка вядомага арабскага публіцыста Анвара Заалука. Яна расказвае аб падрыўной дзейнасці амерыканскай разведкі на Арабскім Усходзе.

Вось урыўкі з гэтай кніжкі.

«Так, напрыклад, з матэрыялаў следства па справе аб забойстве намесніка начальніка генеральнага штаба сірыйскай арміі Аднана Малікі была ўстаноўлена сувязь амерыканскай разведкі з кіраўніцтвам «Сірыйскай народнай партыі», якая правяла гэтае подлае забойства. Было ўстаноўлена, што старшыня партыі Жорж Абдэль Масіх рэгулярна атрымліваў указанні ад амерыканскай разведкі праз сірыйскага рэнегата Хішама Шарабі. Сувязь са змоўшчыкамі ўстанаўлівалася праз дыпламатычнага супрацоўніка амерыканскага пасольства ў Дамаску Брауэра. Кіраваў усёй аперацыяй палкоўнік Франклін — супрацоўнік разведчыцкай службы...

У сваёй дзейнасці ў арабскіх краінах амерыканская разведка строга прытрымліваецца ўстаноўкі распрацаванай былым шэфам амерыканскай разведкі Аленам Далесам. Гэта ўстаноўка гаворыць: «Ствараць трэшчыны ва ўзаемаадносінах арабскіх краін, а затым імкнуцца ператварыць гэтыя трэшчыны ў бездань... Паўтарай хлусню да таго часу, аж пакуль у яе паверацы!»

...амерыканская разведка распаўсюдзіла фальшыўку так званы «тэкст прамовы, сказанай прэзідэнтам Насерам на сакрэтным сходзе егіпецкіх афіцэраў». Прэзідэнт Насер нібыта заклікаў афіцэраў рыхтавацца да вядзення войнаў супраць іншых арабскіх краін. Урад Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі вымушаны быў афіцыяльна абвергнуць фальшыўку. Хоць хлусня была выкрыта, яна стварыла пэўную напружанасць у адносінах ААР з іншымі арабскімі краінамі, на што і разлічвалі яе аўтары. Толькі праз некалькі год было ўстаноўлена, што фальшыўка была сфабрыкавана амерыканскімі агентамі, дзеяннямі якіх кіраваў былы прэс-аташэ пасольства ЗША ў Каіры Уільям Генры.

Для забеспячэння зброяй тэрарыстаў, якія выконваюць заданні амерыканскага Цэнтральнага Разведчыцкага Упраўлення была створана спецыяльная арганізацыя «Інтэрнейшнл армамент карпарэйшн», якую ўзначаліў амерыканскі бізнесмен, кадравы разведчык Сэм Камінгсом... Па словах аднаго з падручных Камінгсома, бізнесмена Бару, «Інтэрнейшнл армамент карпарэйшн» узброіла на Арабскім Усходзе армію, колькасць якой перавышае ўзброеныя сілы некаторых тутэйшых дзяржаў.

Усё гэта сведчыць аб тым, што тайная армія амерыканскай разведкі валодае на Блізкім і Сярэднім Усходзе не толькі вялікім і добра арганізаваным апаратам, але і ўласнымі «узброенымі сіламі», якія маюць спецыяльныя задачы і валодаюць рознымі сродкамі для іх выканання.

У свой час амерыканскія разведчыкі паведамілі ў Вашынгтон:

«Аслабленая ваеннымі акцыямі трох дзяржаў (гутарка тут аб англа-франка-ізраільскай агрэсіі — с.я.) і эканамічнай блакадай эканоміка Егіпта можа знайсціся ў стане крызісу, калі ўвесці ў абарот вялікую колькасць фальшывых грошай».

У адказ на гэтае данясенне спецыяльны крыміналістычны цэнтр ЗША падрыхтаваў машыну для друкавання фальшывых егіпецкіх банкнотаў. Папера была атрымана з Англіі, казначэйства якой да гэтага часу друкавала егіпецкія фунты. Машыну ў разабраным выглядзе даставілі ў адну з арабскіх краін і перадалі групе егіпецкіх эмігрантаў, варожа настроеных да рэспубліканскага рэжыму. Неўзабаве рынкі некаторых арабскіх краін былі наводнены фальшывымі егіпецкімі банкнотамі.

Толькі дзякуючы цвёрдай рэакцыі з боку егіпецкіх улад, злачынная змова не дасягнула сваёй мэты. (а-ся)




# Там дзе нарадзіўся цудоўны паланез

Вялікі польскі кампазітар Міхал Клеафас Агінскі значную, найбольш плённую частку свайго жыцця правёў на беларускай зямлі. У Слоніме, пры двары вялікага літоўскага гетмана Міхала Казіміра Агінскага, прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады.

У памятным 1794 годзе, калі пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, Агінскі на свае грошы ўзброіў атрад патрыётаў і павёў яго ў напрамку да Мінска. Ля Смаргонь і Валожына, Ашмян і Браслава адбыліся сутычкі атрада з царскімі войскамі. Урэшце ў 1802 г. кампазітар атрымаў ад свайго дзядзькі, маладзечанскага графа Ф. К. Агінскага маёнтак Залессе, што ў 20 кіламетрах ад Смаргонь, і пераехаў сюды на сталае жыхарства. У Залессі па праекту вядомага архітэкта Шульца быў пабудаваны новы палац, разбіты парк. Сюды па вечарах сабіраліся пісьменнікі, кампазітары, артысты, мастакі. У Залессі Агінскі напісаў большасць сваіх музычных твораў, у тым ліку свой славуты паланез ля-мінор, які атрымаў назву «Развітанне з радзімай». Мы не ведаем, што канкрэтна натхняла аўтара гэтага шэдэўра, у якім непаўторна зліта ў адно пэлае і боль за сваю шматпакутную радзіму, і туга па лепшаму будучаму, і покліч ісці ў імя яго на барацьбу. Але, магчыма, чароўная мелодыя нарадзілася ў душы кампазітара як водгук на беларускую народную песню, поўную гора і празрыстага суму. Прынамсі, некаторыя беларускія музыказнаўцы (Л. Фёдараў) пераканаўча даказваюць сувязь гэтага паланеза з адной з беларускіх жніўных песень.

У Савецкай Беларусі, на радзіме чароўнага паланеза, зберагаецца памяць пра яго аўтара. У верасні, калі споўнілася 200 год з дня нараджэння кампазітара, у рэспубліцы адбыліся музычныя вечары. Асабліва цікава яны прайшлі ў Залессі, Смаргонях, Маладзечна. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Смаргонскага РДК выканалі музычна - харэаграфічную кампазіцыю «Паланез Агінскага». Словы да яе напісаў мясцовы паэт Ходас, дэкарацыі і касцюмы зроблены па малюнках сталічнага мастака Баразны. Паслухаўшы лекцыю пра М. Агінскага, вучні Маладзечанскага музычнага вучылішча вырашылі, што добрай вучобай яны павінны заваяваць права называць сваю ўстанову імем вялікага кампазітара. На вечары, які адбыўся ў Маладзечанскай гарадской бібліятэцы, выконваліся творы Агінскага, Шапэна, Вяняўскага.

Непазнавальныя змены адбыліся за апошні час у Залессі, дзе калісьці жыў кампазітар. Цяпер гэта — прыгожае добраўпарадкаванае мястэчка, звязанае асфальтавым шасэ і чыгункай з Вільнюсам, Мінскам. У Залессі — сярэдняя і васьмігадовая школы, прыгожы дом культуры. Сюды прыязджае многа турыстаў, каб агледзець палац Агінскага (цяпер тут дом для састарэлых), камень з надпісам у гонар Касцюшкі, прыгожыя паркавыя алеі.

У сувязі з юбілеем беларускае радыё і тэлебачанне наладзілі перадачы пра Агінскага. Артыкулы пра яго творчасць змешчаны ў газетах і часопісах. Так, беларускі паэт Ул. Караткевіч надрукаваў у «Маладосці» эсе «Песня паўночных Афін», дзе з усхваляванасцю піша пра неўміручасць музычных твораў Агінскага.

АДАМ МАЛЬДЗІС

# Давайце падыскутуем аб БГКТ

(Працяг са стар. 1)

відаць. Не хапае часу, не хапае адказнога да выконвання і гэтай працы.

Гаворым часта, што ў дзейнасці БГКТ адным з важнейшых напрамкаў ёсць развіццё аматарскага руху на вёсцы. Сапраўды, аматарскі рух сярод беларусаў Беласточчыны мае свае добрыя традыцыі, далей развіваецца, дасканаліцца. Зімою заўсёды пачынае працаваць ад 60 да 100 гурткоў. Аднак наша дапамога ім была мінімальная: рэпертуар, дзе-нідзе народныя ўборы, правядзенне агляду, ці курсу — вось і ўсё. Сапраўднай дапамогі-інструктажу даць не можам, таму што не хапае людзей.

Такое ж становішча ў галіне асветы і некаторых іншых справах.

Значыць, калі няма сіл, можна задаволіцца тым, што ёсць зараз. Аднак трэба паспрабаваць працаваць інакш.

Зараз усю ўвагу актыву БГКТ і штатных працаўнікоў накіроўваем на гурткі таварыства, на аддзелы. Трэцяя частка ўсіх штатаў ГП знаходзіцца ў аддзелах, раздзелена па адной асобе, столькі ж выдзелена ў эстрадную групу «Лявоніха», а ў кіруючым ГП засталіся ўборшчыцы, сакратаркі, бухгалтары, шафёры і двух аператыўных працаўнікоў — сакратар і кіраўнік.

І калі эстрада выконвае добрую работу, хоць часта мы ад яе хацелі б мець больш карысці — адсюль апошнім часам пачалася дыскусія над далейшымі напрамкамі яе працы, то інструктарскія штаты пры аддзелах (за адным выключэннем) эфектаў не даюць. Інструктар згодна з вымогамі павінен быць універсальным працаўніком: ён вядзе аднаасабовае бюро, бібліятэку, прысутнічае на ўсіх пасяджэннях у павеце (запрашаецца — гэта напэўна), арганізуе канцэрты «Лявоніхі», кінасеансы ГП, абслугоўвае мастацкія гурткі і гурткі БГКТ і г.д. і г.д. Дадаць трэба — усё выконвае не пад штодзённым кантролем, а (апрача нарады ў ГП) зусім самастойна. Таму на кожны напрамак дзейнасці мае 2—3 дні, тады калі гурткоў у Гайнаўскім ці Бельскім паветах ёсць па 48. Трэба прытым заўважыць, што на абслугу гурткоў едуць усе вельмі неахвотна. Тут розныя зацікаўленні, узрост, падрыхтоўка, свае праблемы, да вырашэння якіх актыў часта не падрыхтаваны. Інакш маецца правядзенне даклада, арганізаванне акадэміі, фільма, ці канцэрта. Такія мерапрыемствы правесці лягчэй.

Тады ці не карысней выдзяліць на тэрыторыі кожнага павета 3—4 а мо і больш пунктаў і наведаць іх сістэматычна адзін раз у 2 месяцы цэлай экіпай у складзе 10—15 асоб? Сярод такога ліку знойдуцца арганізатары да абслужэння гуртка, а мо і некалькі: дырыжор, харэаграф, лектар, сувязны з грамадска-культ. арганізацыямі, працаўнік да асветных спраў. Усе яны выканалі б сваю работу добра, з вопытам і аставілі б не толькі след, але і інструктаж да наступнага прыезду. Заканчэнне зрабіць велізарным канцэртам або бясплатным фільмам. Тут быў бы згрупаваны транспарт ГП, з якога скарыстаў бы актыў і інструктары. Словам: дзень БГКТ.

Апошнюю частку штатаў і грамадскіх сіл выкарыстаць да працы ў літаратурна - навуковым аддзеле. Яго змаглі б весці 3—4 асобы. Тут сканцэнтравалася б творчая думка: нашыя члены літаб'яднання «Белавежа», члены навуковага гуртка, мастакі, сюды ўвайшлі б справы музея і далейшага яго развіцця, тэарэтычныя распрацоўкі, запачаткаваны збор мясцовых песень і г.д.

Змен такіх увесці адміністрацыйна без згоды шырэйшага кругу членаў БГКТ нельга. Нельга і таму, што кожнае праўленне аддзела, кожны гурток мае свае калі не дасягненні то амбіцыі, і з імі трэба лічыцца.

Давайце перад з'ездам падыскутуем. Мо разам выпрацуем больш дасканалыя формы дзейнасці. Менавіта гэтай мэце прысвечаны сённяшні кароткі артыкул.

Сакратар ГП БГКТ
УЛ. ЮЗВЮК

## Успаміны 29

У лагерных залах завёўся страшэнны бруд. Бялізны і пасцелі нам не змянялі. На мыццё і на латанне бялізны не знаходзілася ў бярозаўскім парадку дня ніводнай хвіліны часу. Не ўсе вязні паспявалі кожны дзень нават абмыць крыху твар і рукі. Кроў, змешаная з брудам і потам, пакрывала тоўстым слоем нашае цела і вопратку. Для вашэй быў гэта рай. Расплодзілася столькі гэтага паскудства, што можна было збіраць іх поўнымі прыгаршчамі.

У картуз-бярозаўскім рэжыме вошы ды ўсялякі інцы бруд быў дадатковым, звышпраграмным элементам фізічнага і маральнага вынішчэння «асоб пагражаючых бяспецы, спакою і публічнаму парадку», як гэта акрэсліваў прэзідэнцкі дэкрэт ад 17 чэрвеня 1934 года.

Аднак мы не паддаваліся ні палкам, ні карцырам, ні холаду і голаду, ды не змаглі нас вошы.

Скупымі крыніцамі даходзілі за драты Бярозы слыхі аб масавых пратэстах шырокіх кругоў польскай і замежнай грамадскасці супроць так яўнага зняважвання чалавечых правоў, як гэта тварылася ў Картуз-Бярозе. Пад націскам гэтых пратэстаў картуз-бярозаўскае пытанне пад канец 1934 і на пачатку 1935 гадоў разглядалася на форуме польскага Сейма.

У тым часе наступіла чарговая змена польскага ўрада. Пасаду прэм'ер-міністра і міністра ўнутраных спраў пасля Казлоўскага абняў ваявода беластоцкі, былы член Польскай сацыялістычнай партыі, Зындрам Касцялкоўскі. Намагаўся ён паказаць сябе як старонніка прагрэсу, старонніка чарговай «санацыі» (аздараўлення) ўнутраных спраў Польшчы. Каб прадэманстраваць перад народам свае «прагрэсіўныя» схільнасці прэм'ер-міністр Касцялкоўскі рашыў, між іншым, асабіста наведаць «месца адасаблення» ў Картуз-Бярозе.

Здарылася гэта недзе каля 20 сакавіка 1935 года. Канчаўся пяты месяц майго заключэння ў картуз-бярозаўскім лагеры.




Гэтага дня зараз пасля пабудкі заўважылі мы дзіўную, як на картуз-бярозаўскія ўмовы, змену ў паводзінах ахраннікаў. Нікога не білі, не было каркага рапарту, датэрмінова выпусцілі ўсіх вязняў з лагернага карцыра, асаблівую ўвагу прыкладалі да прывядзення ў парадак усіх лагерных памяшканняў.

За час прабывання за картуз-бярозаўскімі дратамі мы шмат чаго навучыліся разумець гледзячы на паводзіны ахраннікаў. Цяпер усе мы прадчувалі, што здарыцца штосьці незвычайна важнае. Але што? Гэтага, зразумела, ніхто дакладна не ведаў. Вязні пачалі заўзята шаптаць. Дзіва! Паліцэйскія прыкідваліся, што нібыта гэтага не заўважаюць.

Дзень праходзіў у нервовай напружанасці чакання.

Закончыўся абед. Да сухой звычайна бульбы дабавілі сёння лыжку гуляшу. Кіруемся мыць кацялкі. Паліцэйскія падганяюць, але не б'юць. Раптам за плячыма чую шэпт:

— Прыязджае Касцялкоўскі. Камуністам запісвацца да рапарту!

Вестка паразіла мяне бы электрычны ток.

Карціць адвярнуцца назад, пабачыць, хто перадае гэтую вестку, але ведаю: нельга! Гэта тут закон: што б не тварылася, азірацца нельга, глядзі наперад і не паказвай, што хвалюешся. Па голасе пазнаю, што мой інфарматар з'яўляецца адным сярод таварышоў кіруючай «тройкі» бярозаўскай КАМУНЫ, здаецца доктар Рудэль або Трафім Марышчук.

Па дарозе ад бочак з вадой да сваёй залы паспяваю пераказаць нечаканую вестку наступным таварышам. У час пасляабедняй «гімнастыкі» (сёння шмат лягчэйшай чымсьці звычайна) нечаканая вестка распаўсюджваецца далей. Да раніцы наступнага дня КАМУНА прымае і тэлефонам «на вуха» перадае таварышам праграму асноўных патрабаванняў.

Усе камуністы (было нас тады ўжо чалавек каля 55) запісваюцца на «аўдыенцыю» ў пана прэм'ер-міністра. Зындрам Касцялкоўскі прымае нас кожнага паасобку. Разам з іншымі таварышамі чакаю ў аграмаднай канторскай зале. Пра што пытае прэм'ер-міністр — невядома. Тых, хто выходзіць ад яго, паліцэйскія да нас не дапускаюць.

## КОНКУРС

### толькі для жанчын

### ЗДАРОЎЕ І КУЛЬТУРА Ў СЯМ'І

**Увага. новы цікавы чытальніцкі конкурс — толькі для жанчын. Яго лозунг: «Здароўе і культура — падстава сучаснай сям'і».**

**Аб конкурсе дакладней:**

**Галоўнымі арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца: Ваяводскія і Гарадскія бібліятэкі ў Беластоку і Любліне разам з Лігай жанчын.**

**Далучаюцца да спаборніцтва ўстановы грамадскага, асветнага і гандлёвага характару, для прыкладу Таварыства свядомага мацярынства, Куратарыум, ПЦК, спулдзельні розных тыпаў.**

**Час конкурсу — да канца мая 1966 года.**

**Праблему, пастаўленую ў лозунгу конкурсу, чытачкі будуць пазнаваць праз папулярна-навуковыя кніжкі, будуць глядзець адпаведныя фільмы, слухаць гутарак на тэму.**

**У сакавіку і красавіку 1966 года адбудуцца агляды І-шага этапа, у маі — другі этап — у паветах. 29 мая будзе днём урачыстага заканчэння спаборніцтва чытачак у ваяводскім горадзе.**

**У конкурсе ў І этапе прымуць удзел усе жанчыны, якія прачытаюць хоць бы 2 кніжкі на тэмы: санітарная асвета і выхаванне.**

**У ІІ — павятовым этапе — стануць усе здабыўцы І месц І этапа ў сваёй вёсцы. Яны дадаткова на прыезд у павет павінны прачытаць 2 кніжкі.**

**Непасрэдную дапамогу ўдзельнікам у вёсцы акажуць грамадскія бібліятэкі, школы, ГС-ы, гурткі вясковых гаспадынь.**

**Конкурс, аб якім гаворым, вельмі карысны і лёгкі. Заахвочваем усе жанчыны вёскі і горада прыняць у ім удзел. (вл)**

**(З КАНЦЭРТАЎ М. ЗАБЭЙДЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ)**



**Міхась Забэйда і Здэнэк Кожына.** **Фота Ян Мазурэк**

# Песня не мае граніц

Ітак. Доўгачаканыя гастролі Міхася Забэйды на Беласточчыне закончыліся. Тыдзень яго ў нас быў працавіты. Занадта працавіты. Штодзень канцэрт, штодзень у іншай мясцовасці. Умовы для канцэртаў далёкія ад добрых. Недастроеныя піяніна, халодныя залы. Але пясняр трымаўся. Спяваў і, нягледзячы на арганізацыйныя прабелы, спяваў добра.

Міхалова, Мілейчыцы, Бельск, Гайнаўка, Саколка, Гарадок. Апошні прыняў Забэйду ў Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага. Вялікая зала, дзе замест утульнасці пасяліўся холад, як вядома, першы вораг голасу спевака. Было б у парадку, каб пясняр адказаўся выступаць у такіх умовах, але Міхась Забэйда, расціраючы рукі над электрычнай пліткай, спяваў гарадчанам свае песні. Слава песняру!

Галоўны канцэрт Міхася Забэйды адбыўся ў Беластоку. Як апошні ў серыі яго канцэртаў на Беласточчыне. А чаму апошні, а не першы? Кожны падлягае змучанню. Асабліва пры так інтэнсіўнай працы. Але слухач мае свае вымогі і зусім не лічыцца з мажлівасцю змучання спевака. Прызнаюся, што пасля халоднага Гарадка, я ўздрыгалася на думку, што наш госць можа ахрыпнуць. А канцэрт у Беластоку павінен быў выйсці на славу. Гэта была справа нашай амбіцыі і, што скрываць... нацыянальнага гонару. Міхась Забэйда з'яўляецца артыстам Чэхаславакіі, прадстаўляе нам высокае мастацкае майстэрства, здабытае ў італьянскай школе, але ўцверджанае ў музыкальнай Чэхаславакіі, якая добра ўмее засвоіць усё прыгожае і вартаснае. Міхась Забэйда трывала зросся з культурай сацыялістычнай Чэхаславакіі, залатой Прагі — кансерваторыі Еўропы, як сам любіць паўтараць. Усё гэта не змяняе аднак факту, што ў жылах яго плыве беларуская кроў. І яшчэ раз слава Забэйду, што праз гады і краіны, бурныя здарэнні пранёс і захаваў гэтыя кроўныя сувязі.

Канцэрт у Беластоку (праграма тая ж, што і ўсюды) слаўна закончыў пабыўку дарагога госця ў нас. Так акрэсліць гэты канцэрт было б за ўбога. Канцэрт Забэйды меў характар узыходны. Як ацтэцкая піраміда з яе ступенькамі, па якіх узыходзілася на вяршыню і з яе ва ўсёй красе бачылася бога-Сонца ці Месяц, так і Забэйда вёў сваіх слухачоў на вяршыню, каб урэшце нават самыя вялікія флегматыкі (маецца крыху розных знаёмых) змяніліся да непазнакі. Сіла Забэйдавай песні панавала непадзельна. У днях наступных пасля канцэртаў знаёмыя дзяліліся са мной яшчэ ўспамінамі. Перад сном і рана па беластоцкіх кватэрах гаварылася аб Міхасю Забэйду.

М. Забэйда спяваў па-італьянску, іспанску, англійску, нямецку, чэшску, славацку, руску, польску, украінску, беларуску. Колькі? Зараз... Дзесяць моў. Мо таму. што слухачы былі славянамі, славянскія песні выдаваліся нам бліжэйшымі, а мо таму, што Забэйда непаўторны выканаўца славянскіх матываў. Беласток, прызвычаены больш да напеваў усходнеславянскіх, сардэчна прыняў братэрскія песні Чэхаславакіі, іх чароўнасць і мілагучнасць. Сэрэнада Трояна «Zpev Bajajuv» і «Devče z Moravy» Марціну прыблізілі нам новую айчыну песняра.

Унікальна прагучалі таксама песні: «Ты прыдзі» Чуркіна, «Вечар» Туранкова, «Ці грэх цябе любіць» — Галкоўскага, «Чырвоная каліналька» — народная ў апрацоўцы Казура, «Калыханка мамы» ў апрацоўцы Пэка. Дзве апошнія я б залічыла да шэдэўраў праграмы Міхася Забэйды.

Неадлучным сябрам песняра ў яго гастролях па нашай зямлі быў Здэнэк Кожына, якому нельга не прысвяціць пару слоў. Здэнэк Кожына належыць да групы перадавых піяністаў Чэхаславакіі. Свой клас паказаў у трох сольных творах, якія выканаў, м. інш. манументальны «Рэвалюцыйны эцюд» Шапэна. Здэнэк Кожына канцэртаваў ва ўсіх сацыялістычных краінах і ва ўсіх большых краінах Заходняй Еўропы.

Мой зрок каторы ўжо раз упаў на праграму Забэйдавага канцэрта з яго ж фота. Такая рэч вынесеная з канцэрта застаецца напамяць. Напамяць яе бярэ і сам пясняр і яго акампаніятар. Праграма канцэрта жыве доўга. Таму павінна быць зроблена добра. На жаль, рэдактару праграмы на канцэрт Забэйды можна закінуць неахайнасць, невытлумачальную паспяховасць. Нічым нельга вытлумачыць факту, што ў першай частцы канцэрта імя кампазітараў стаяць пасля прозвішчаў, а ў другой частцы перад прозвішчам. То зноў Галкоўскі раз выступае з імем, раз без яго. Аб гэтакіх хібах прыпамінаю з думкай аб будучыні. Арганізаваць і запрашаць трэба, але вельмі важнай справай ёсць умела, прыгожа і тактоўна гэта рабіць. Гэта будзе падабацца кожнаму: і артысту і слухачу. А арганізатару прыдасць заслужанай славы.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

**Наша акцыя**

## Кніжкі для Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку

Падарунак **Пятра Чэрнякевіча** з Беластока:

**Ул. Хадыка — «Выбраныя вершы»; А. Звонак — «Табе адной»; П. Панчанка — «Выбраныя творы», П. Трус — «Выбраныя творы»; А. В. Кольцов — «Сочинения»; А. Куляшоў — «Грозная пушча»; І. Шамякін — «Крыніцы»; «Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі»; А. С. Карзон і М. І. Жыркевіч — «Граматыка беларускай мовы»; «Сказки и легенды Южного Сулавеси»; Н. А. Некрасов — «Стихотворения» том І, ІІ, ІІІ; «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі»; К. Чорны — «Збор твораў» том І, ІІ, ІІІ, V і VI; К. Крапіва — «Збор твораў» том І, ІІ, ІІІ; З. Бядуля — «Збор твораў» том І, ІІ, ІІІ, ІV; Я. Купала — «Збор твораў» том І, ІІ, ІІІ, ІV, V, VI; J. Biliunas — «Smutna opowieść»; J. Putrament — «Chińszczyzna».**

## АСЕННІЯ ПАДЛІКІ «БЕЛАВЕЖЫ»

У нядзелю — 31 кастрычніка г.г. адбыўся семінар Літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа», якое існуе пры Галоўным праўленні БГКТ.

На семінары прысутнічалі запрошаныя члены Карэспандэнцыйнага клуба маладых пісьменнікаў, які існуе пры Беластоцкім Ваяводскім праўленні ЗМВ. Сярод іх быў, між іншым, таленавіты паэт Аляксей Казберук.

Асноўнай тэмай семінара была ацэнка творчасці «белавежцаў», якія друкаваліся ў сёлеташніх нумарах «Літаратурнай старонкі». Ацэнку падрыхтаваў Яша Бурш.

У заключэнні семінара вырашана змяніць склад рэдакцыйнай калегіі «Літаратурнай старонкі» і перанесці яе з Варшавы ў Беласток. Новую рэдакцыйную калегію ўзначаліў Янка Чыквін. Апрача яго ў калегію выбрана Сакрата Яновіча і Міколу Лобача.

У сувязі з тым новая рэдакцыйная калегія просіць аўтараў дасылаць свае творы па адрасу:

Рэдакцыя «Нівы», Беласток, вул. Весялоўскага 1 — **з дапіскаю на канверце** — «Літаб'яднанне». (ся)

На здымку: удзельнікі семінара (злева направа): Алесь Барскі, старшыня «Белавежы»; Георгі Валкавыцкі, галоўны рэдактар «Нівы»; Аляксей Казберук, таленавіты паэт і заснавальнік Карэспандэнцыйнага клуба маладых пісьменнікаў у Беластоку.

**Фота Ул. Паўлючук**



★ ★ ★ ★ ★

Стараюся не паддавацца нарастаючаму хваляванню. Ці хопіць адвагі? Ці не забуду языка ў губах? Не! Замнога гора наеўся за дратамі Картуз-Бярозы! У памяці яшчэ раз праглядаю асноўныя патрабаванні картуз-бярозаўскай КАМУНЫ.

Урэшце чытаюць маё прозвішча. Рэзка кіруюся ў кабінет. За сталом сядзіць звычайны чалавек.

— Пане прэм'ер-міністр, паслушна дакладваю, што арыштаваны 246 стае да рапарту! — заяўляю згодна з картуз-бярозаўскім законам.

Зындрам Касцялкоўскі глядзіць на мяне без ніякага зацікаўлення, быццам я для яго не жывы чалавек, а нейкі пласт празрыстага шкла, якое не вядома чаму паставілі на лініі яго позірку

— Ну, гавары, чаго хочаш?

— Паслушна дакладваю, пане прэм'ер-міністр, што патрабуем поўнай ліквідацыі картуз-бярозаўскага месца адасаблення як нязгоднага з канстытуцыяй Рэчыпаспалітай! Дзевяноста пяты артыкул канстытуцыі...

— Звяртаю арыштаванаму ўвагу, — спыніў мяне Касцялкоўскі, — што можаш гаварыць толькі ад свайго імя.

Твар яго пачырванеў, мускулы задрыжэлі, а вочы загарэліся злосцю.

— Катуюць тут нас як звяроў, жывымі закопваюць па шыю ў зямлю, да смерці б'юць! — кідаў я ў вочы міністру картуз-бярозаўскую праўду.

— То ж ты жывеш яшчэ! Цябе не забілі! — адказаў Касцялкоўскі з'едліва ўсміхаючыся.

— Кормяць горш за свіней, ды гэтага, што даюць, не можна з'есці спакойна!

— Са свіней ёсць прынамсі мяса, а з вас што?

Злосць мяне разрывала, але ў Картуз-Бярозе прывык я да яшчэ горшых зняваг. Гаварыў далей:

— З'ядаюць нас вошы, жывем у брудзе, як жывёла. Няма для нас ні мыла, ні лазні.

— А можа яшчэ вам шчотачкі да зубоў выдаць, што?

— Кожны арыштаваны таксама чалавек як і пан прэм'ер-міністр, — адказаў я Касцялкоўскаму. — Зубы нам трэба чысціць абавязкова, асабліва пасля гэтага, калі вашыя паліцэйскія прыказваюць языком наводзіць парадак у лагернай прыбіральні.

— Гаварыць толькі ад сябе!

— Прашу аб права на свабодную перапіску з сям'ёй, прашу дапускаць харчавыя перасылкі.

— Арыштаваны забывае, дзе знаходзіцца! — на вуснах пана прэм'ер-міністра кіпела нарастаючая злосць. Я спяшаў закончыць спісак патрабаванняў нашай КАМУНЫ.

— Хочам чытаць газеты і кніжкі!

Сэрца мне білася, бы ашалелае, шчокі гарэлі агнём. Я ледзь стаяў ужо на смірна.

— Гэта ўсё? — запытаў Зындрам Касцялкоўскі.

— Так, пане прэм'ер-міністр! Больш жаданняў не маю.

Касцялкоўскі ўважна змерыў мяне позіркам.

— Месца адасаблення Картуз-Бяроза створана для людзей, якія ў нашай айчыне не заслугоўваюць на малейшае прызнанне. Ты, — нацэліўся ў мяне пальцам, — адзін з іх. Ніякіх тваіх жаданняў, — гэтае слова сказаў з яўнай пагардай, — не бяру пад ўвагу!

«Так, ты не лепшы ад нашых картуз-бярозаўскіх паліцаяў!» — падумаў я.

# АБ ГРАМАДЗЕ НА СЕСІІ

(Працяг са стар. 1)



Др Язэп Кавальскі выступае з дакладам.

Другім дакладчыкам быў мгр Барыс Нікіцюк. Здзіўляе яго працавітасць. Гаварыў ён пра дзейнасць Грамады на тэрыторыі даваеннага Беластоцкага ваяводства. З даклада шырокай ракой плылі прозвішчы людзей, якія самаахвяадана працавалі для Грамады, людзей, пра якіх цяпер памятаюць толькі іх сыны і ўнукі. Чулі мы пра дзесяткі мясцовасцей, якія праславіліся ў грамадаўскі перыяд. Барыс Нікіцюк, як бясстомная пчолка, сабраў гэтыя факты ў запыленых архівах, запісаў ад былых дзеячаў Грамады, якім удалося перажыць усе завірухі і ад членаў сем'яў тых, хто загінуў.

Пачаліся спрэчкі. Старшыня сесіі прадстаўляе слова госцю з-за мяжы — прафесар Ніне Каменскай, загадчыку Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР. З яе прывітальнага слова даведаліся мы аб працах савецкіх вучоных, прысвечаных дзейнасці Грамады. Асабліва многа ўвагі гэтаму пытанню прысвячае навуковы работнік Уладзімір Палуян. Дзейнасць Грамады ўзяў ён за аснову сваёй кандыдацкай дысертацыі.

Потым за трыбунай стаў другі замежны госць — Мікалай Арэхва. Цяпер ён — навуковы работнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Але ў міжваенны час Мікалай Арэхва з'яўляўся кіруючым дзеячам Цэнтральнага Камітэта КПЗБ. Шмат разоў сустракаўся з заснавальнікамі Грамады: Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім і П. Мятлой. У яго словах жывая гісторыя. Слухаючы яго, бачым вачыма ўяўлення поўную складанасць даспявання і тварэння гэтай масавай беларускай арганізацыі.

Аляксандра Бэргман — былы дзеяч КПЗБ, аўтар многіх апрацовак аб дзейнасці Грамады, гаворыць пра ўзаемныя суадносіны паміж Грамадой, КПП і КПЗБ. Звяртае яна таксама ўвагу на фальшывую ацэнку дзейнасці Грамады, якую раней давалі некаторыя вучоныя. Прыемна адзначыць, што А. Бэргман прапанавала ўвазе прысутных матэрыялы аб Грамадзе, якія змясцілі мы на старонках нашага тыднёвіка.

І зноў за трыбунай жывая гісторыя. Доктар Альфрэд Фідаркевіч. Ён сам — цэлая эпоха ў польскім рэвалюцыйным руху. Асабіста ведаў усіх заснавальнікаў Грамады, сябраваў з імі і супольна змагаўся за справы прыгнечанага люду. У яго ўспамінах аджываюць незвычайна бурныя пасяджэнні Сейма, калі санацыйны ўрад разграміў Грамаду.

Піліпа Пестрака, выдатнага беларускага пісьменніка прысутныя вітаюць стыхійнымі воплескамі. З Грамадой звязаўся ён у сваім родным мястэчку Косаве. Успамінае, між іншым, бурную маніфестацыю, якая ў студзені 1927 года ўскалыхнула Косавам, калі людзі даведаліся аб разгроме Грамады.

Старшыня сесіі называе прозвішча: Аляксандр Зданюк. У яго словах няма круглых навуковых абагульненняў. Гэта селянін з вёскі Астроўе, Дуброўскага павета. Воін Кастрычніцкай рэвалюцыі, камуніст. Гаворыць аб ахвярнасці радавых дзеячаў Грамады. Выкарыстоўвалі яны кожную нагоду — вяселле, хрысціны, фесты і кірмашы—каб толькі тлумачыць людзям грамадаўскія ідэі. Памятнай навагодняй ноччу 1927 года А. Зданюк папаўся ў кіпцюры дэфенсіўшчыкаў. Успамінаючы тадышні час, асабліва моцна падкрэслівае ён бунтаўнічы ўплыў ідэй Вялікага Кастрычніка.

Затым за трыбунай паяўляецца прадстаўнік маладшага пакалення — Аляксандр Баршчэўскі. Літаратар, навуковы работнік Варшаўскага універсітэта. Гаворыць аб ідэйнай эвалюцыі поглядаў правадыра Грамады Браніслава Тарашкевіча, аб яго выступленнях у Сейме і аб яго публіцыстычнай дзейнасці.

Час праходзіць шпарка. У вокны зазірае асенні вечар. Прыходзіцца абмежаваць час выступленняў да дзесяці мінут. Усё ж яшчэ далёка да канца спіску тых, хто хоча падзяліцца сваімі думкамі аб Грамадзе. Вось паэт Віктар Швед знаёміць прысутных з буйным росквітам беларускай паэзіі ў перыяд існавання Грамады, а сакратар ГП БГКТ тав. Ул. Юзвюк дае гісторыю дзейнасці гуртка Грамады ў сваёй роднай вёсцы Трасцянцы.

Пасля разгрому Грамады яе ідэі перанялі ў «Змаганне» і ТБШ. Аб дзейнасці гэтых арганізацый гаварылі двух апошніх дыскутантаў.

Плён канферэнцыі багаты і разнастайны. Шмат чаго новага даведаліся мы пра бурную дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Арганізатары сесіі абяцалі плён гэты ўвекавечыць асобным выданнем. Для тых таварышаў, якія не змаглі або не хацелі выступіць на сесіі, ёсць нагода. Прысылайце свае ўспаміны і праблемныя апрацоўкі аб дзейнасці Грамады на адрас Ваяводскага камітэта ПАРП, або Галоўнага праўлення БГКТ. Будуць яны ўключаны ў зборнік прысвечаны 40-ой гадавіне заснавання гэтай масавай рэвалюцыйнай беларускай арганізацыі.

В. Рудчык



Удзельнікі сесіі. У першым раду (злева направа) былы старшыня цэнтральнага гуртка ТБШ Вінцук Склубоўскі і грамадаўцы: Янка Грэсь, Піліп Кізевіч і Мікалай Лебядзінскі. На задзім плане А. Барскі і Ф. Галавач.




## ШТО ЛЕПШ ПАШЫЦЬ?

«У гэтым годзе я закончыла школу і ад кастрычніка пачала ўжо працаваць. Працую ў грамадскай радзе ў сваёй вёсцы. І вось за сваю першую зарплату хачу зрабіць сабе сукенку або блузку і спадніцу на работу. Парай мне, Аксіння, што лепш», — піша Гэля з Н.

Зразумела, лепш пашыць блузку і спадніцу, чым сукенку. А вось зараз напішу чаму. Па-першае: можаш мяняць — раз апранеш блузку са спадніцай, другі раз світэр (напэўна маеш світэр); па-другое: за тыя грошы, якія заплаціш за сукенку, можаш пашыць дзве блузкі; па-трэцяе (бадай што найважнейшае): блузка і спадніца больш маладзёжны ўбор да працы; па-чацвёртае: зараз на асенне-зімовы сезон наймаднейшае. Узораў спадніцы не падаю табе, бо найлепш пашыць вузкую, простую і цёмнага колеру. Гэта зразумела чаму: каб не мялася і не брудзілася. Але затое падам табе два ўзоры блузак. Блузкі павінны быць у ясным колеры, але абавязкова трэба падбіраць у адпаведных



адценнях да спадніцы. Да чорнага колеру падыходзяць усе іншыя. Блузкі шыем з доўгімі рукавамі з манжэтамі, якія зашпільваюцца на гузікі. У першай блузцы выраз пад самай шыяй, варатнік, за-



спежка пад складкай. Да гэтага прышпільваем бант (як на здымку 1), або замест банта можам прышпіліць кветку, брошку.

Другая блузка мае вялікі выраз, іншай формы варатнік, няма засцежкі. У канцы выразу можна таксама прышпільваць брошкі або кліпсы. Абедзве блузкі лёгка дапасаваныя па швах у баках і ўпускаюцца ў спадніцу.

АКСІННЯ

# У ПОШУКАХ ЯЦВЯЖСКІХ СЛЯДОЎ

Чытаючы працы познаньскага вучонага др-а Е. Вішнеўскага аб гісторыі каланізацыі ўсходняй і паўночнай Беласточчыны нельга паўстрымацца ад некаторых дагадак, якія выклікаюць зацікаўленне да мінуласці аколіцы, павета.

Разгарнуўшы першы лепшы гістарычны атлас для вучняў шостых-сёмых класаў даведваемся, што дакладна цяперашнюю Беласточчыну аж па Буг засялялі яцвягі, племя блізкае сваёй моваю і звычаямі да літоўцаў і прусаў. Як вядома, прусаў і яцвягаў выгубілі крыжаносцы. Уцалеўшыя рэшткі яцвяжскага насельніцтва ўцякалі ў братнюю Літву, а таксама ў пушчу за тапелістаю ракою Бобра, на тэрыторыі цяперашніх Дуброўскага, Сакольскага, Манецкага паветаў. Шмат яцвягаў пасялілася ў аколіцах Гродна і Ваўкавыска, дзе яны найдаўжэй захавалі сваю мову, якой карысталіся яшчэ нават у XV ст. Вялікую колькасць яцвягаў крыжаносцы перасялілі на паўвостраў Самбія, у аколіцы пазнейшага Кенігсберга.

Падобны лёс чакаў літоўцаў, беларусаў, палякаў. Небяспека нарадзіла палітычны саюз гэтых народаў, якія здолелі нанесці сакрушальны ўдар па крыжаносцах пад Грунвальдам.

Але Яцвягія была знішчана дакладна на 127 год перад славутым Грунвальдам.

Найноўшыя доследы па гісторыі Яцвягіі паказваюць, што не займала яна цэлай сучаснай Беласточчыны, але толькі землі на поўнач ад ракі Бобра, — яе шырокая, разлівістая нізіна не заахвочвала да перасяленняў. Дуброўшчына, Сакольшчына, Беластоцкі павет, Гайнаўшчына, часткова Бельшчына былі паро слыя бязлюднаю пушчаю, якая раздзяляла Русь ад Мазоўша. Ці напраўду гэтыя пушчы былі бязлюднымі? Праўда, што ваяўнічыя яцвягі і прусы, якія безустанку змагаліся са сваімі суседзямі, перашкаджалі каланізацыі земляў паміж рэкамі Нарва, Супрасля і Бобра. Каланізацыя ўтрымалася толькі ў аколіцы моцных крэпасцей, як: Драгічын над Бугам, Бельск, Сураж над сярэдняй Нарваю і Гродна.

Аднак выдаецца амаль пэўным, што дашчэнту разгромленыя крыжаносцамі яцвягі шукалі ратунку не толькі ў сваіх былых ворагаў пад Ваўкавыскам, Гроднам ці на Мазоўшы. Яцвяжскія недабіткі апынуліся ў пушчах цяперашніх паветаў Дуброўскага, Сакольскага, Манецкага, Беластоцкага. Прабіраліся яны па шыю ў тапеліцы цераз дрыгвяністую нізіну ракі Бобры і ўцякалі, куды вочы нясуць.

Нават павярхоўна паглядзеўшы на геаграфічную карту Беластоцкага ваяводства кідаецца ў вочы значная колькасць неславянскіх назваў вёсак і рэк, чаго няма ўжо бліжэй Бельска, Суража ці Драгічына, дзе ўвесь час трымалася старая каланізацыя спачатку рускавалынская, а потым і мешаная мазавецка-руская.

Ці часамі тыя як бы неславянскія вёскі і рэчкі не з'яўляюцца слядамі пражывання тут яцвяжскіх пасяленцаў, якія потым расплыліся ў беларускай стыхіі?

Каля Крынак працякае рака Нетупа. Рэкі аб даволі падобных назвах — Нета альбо Шэшупа — знаходзяцца на поўнач ад ракі Бобра, у сэрцы былой Яцвягіі. Над Нетупаю знаходзіцца аж дзве вёскі аб такой жа назве, заселеныя яшчэ за часоў князя Вітаўта літоўцамі, альбо, магчыма, патомкамі яцвягаў, якія добра ведалі гэтыя мясціны. Для аховы шляху з Гродна ў Польшчу уздоўж ракі Свіслач і ў кірунку на пушчанскі Гарадок і Бельск, вялікі князь Вітаўт заснаваў шэраг вёсак, якія засяляў перасяленцамі аж з Літвы. Гэта: Уснар, Палуяны, Вялікія і Малыя Эйсманты, Гінюшы, Нетупа, Габяты. Недалёка ад Уснара, пад стралецкаю вёскаю Гаркавічы відавочнае нейкае гарадзішча — стромкае, абвакоnенае дрыгвяністаю рачулкаю. Паміж Крынкамі і Саколкаю працякае рэчка Слоя, якая выцякае ад вёскі Слоя. У яе аколіцы, бліжэй пад Кнышэвічы, знаходзіцца на высокай гары дзіўны могільнік, на якім па сённяшні дзень стаіць як бы каменная чалавекападобная разьба. Часамі капаўся ў гэтых могілках якісьці археолаг-аматар, які няўмеючы нішчыў, мабыць, бясцэнныя рэлікты мінулай гісторыі. Непадалёку ад Слоі знаходзіцца вёска Шудзялава, назва якой выдаецца надта неславянскай, больш падобнай да літоўскай лексікі. Паміж Крынкамі і Беластокам, у сэрцы старой пушчы, знаходзіцца вёска Сакалда над рэчкаю аб такой жа назве. Старая назва павятовага горада Саколка — гэта Саколдка, Сакалдка.

У Крынках і акалічных вёсках маем дачыненне з прозвішчамі, якія канчаюцца на -эль, -ель, -уба, -эйга: Кішкель, Радэль, Чэпель, Куршэль, Тумель, Скроўба, Трэйга. Варшаўскі мовазнаўца прафесар Абрэмбская-Яблонская ў прыватнай размове з аўтарам гэтага артыкула ў час дыялекталагічнай экспедыцыі на Крыншчыну сцвердзіла неславянскасць гэтых прозвішчаў. Хто ведае, ці гэта не патомкі яцвяжскіх эмігрантаў, што шукалі ратунку ў недалёкай Ваўкавыскай аколіцы. Ёсць жа там мястэчка Зэльва і рэчка Зэльвянка. А за Аўгустовам, на былых яцвяжскіх землях, адно возера таксама называецца Зэльва, што ў перакладзе на беларускую мову абазначае — Зялёнае. Мінулым летам плыў я па гэтым дзікім возеры, заваленым сцвярдзелымі пнямі — і ўспаміналася мне ваўкавыская аналогія.

Каля Крынак існуе вёска Хлоднэ Влукі, якую ўсе ведаюць пад назваю: (Д-) Трайгле. Часамі можна яшчэ пачуць у гэтай старонцы пагаворку-папрок: «Валанда ты, ды годзе!» Наколькі мне вядома, па-літоўску слова «валанда» абазначае «гаварыць».

Непадалёку Васількова пад Беластокам уліваецца ў раку Супрасля рэчка Чорная. Ёсць Чорная Весь Касцельная, Чорная Беластоцкая. Як не дзіўна, але назвы «чорная, чорнае» вельмі папулярныя ў назвах рэк і вёсак на Сувальшчыне, у самай сэрцавіне былых яцвяжскіх плямёнаў. (напр. Чорна Ганьча). Вёскі ў Дуброўскім павеце над Бобраю — Ягінты, Ляўданшчына, Керсноўка, Яцвязь Малая і Яцвязь Вялікая сведчаць самы за сябе. Дарэчы, здаецца, ёсць такое слова — праўдападобна, чыста яцвяжскае — «керсна», што абазначае «чорнае». І амаль насупраць Керсноўкі, па другі бок ракі Бобра, знаходзяцца вёскі Чарнева, Чорны Лес, а далей — Чарнуха.

Так напраўду кажучы, дык ніхто грунтоўна не зацікавіўся даўняй гісторыяй гэтых земляў. Рыдлёўка археолага не кранула мясцовых курганаў, гарадзішчаў, дзіўных могілак. Часамі людзі разбіраюць вялізныя, парослыя мохам і як бы высечаныя камяні з гэтых дзіўных могілак і будуюць з іх падмуркі пад хаты, так, як сталася гэта калісьці ў аколіцы Паўднёвага Вострава.

Сакольская зямля поўная сакрэтаў і няведамых тайнаў мінуласці.

САКРАТ ЯНОВІЧ

P. S. — Працы др-а Е. Вішнеўскага нядаўна надрукаваныя ў кніжках «Studia i materiały do dziejów Suwalszczyzny» і «Навуковы Зборнік БГКТ». Гэтыя кніжкі знаходзяцца, бадай, ва ўсіх вясковых бібліятэках.



ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 46 (407) 14 лістапада 1965 г.





# НАВІТОК

Коля Піліпчанка куляй уляцеў у клас:

— Рабяты! Зінаіда Рыгораўна сказала, што ў наш клас навічок прыйдзе. Пераведся з 16-й школы!.

Настаўніца пасадзіла яго побач з Колем Піліпчанкам.

— Коля Бухаўцоў, — пазнаёміла яна і дадала: — Добры, кемлівы хлопчык...

Коля падняў галаву і паглядзеў на настаўніцу. Яму здалося, што яна насміхаецца з яго.

«Хвалі, хвалі, — падумаў хлопчык. — Напэўна, раней расказала, які я «добры...» — Але позірк настаўніцы быў чысты, твар сур'ёзны. З вучняў таксама ніхто не ўсміхаўся.

«Прыкідваюцца, што нічога не ведаюць... Выхоўваць сабраліся...»

І каб даказаць настаўніцы, што яго, Колю Бухаўца не так проста «купіць», ён пасля першага ж урока сабраў кнігі, сшыткі і выйшаў з класа. Да канца заняткаў Коля бадзяўся па вуліцы. Гэта каб маці не падумала, што ён уцёк з урокаў. Назаўтра першым урокам таксама была арыфметыка. Зінаіда Рыгораўна Гуляшова разгарнула класны журнал і сказала:

— Дастаньце сшыткі. Праверым дамашняе заданне.

Коля нават не зварухнуўся.

— Чаму ты не дастаеш сшыткаў? — нахіліўся да яго Коля Піліпчанка.

— А навошта? — знарок гучна адказаў Коля. — Усё роўна двойка: я не рашыў задачы...

— Што, Коля, у цябе не было часу?... — Настаўніца падышла да Бухаўцова.

— Не было. — Хлопчык падняў вочы, і позіркі іх сустрэліся. У вачах Зінаіды Рыгораўны быў такі смутак, што Коля не вытрымаў, апусціў галаву і ледзь-ледзь не закрычаў: «Ну, стаўце двойку, пішыце запіску маці... Пішыце!»

Неспадзявана для яго самога дзве слязінкі выкаціліся з вачэй і пабеглі, пакідаючы за сабой дзве празрыстыя дарожкі. Коля хуценька змахнуў іх рукой і ў думках папракнуў сам сябе: «Толькі той, хто смелы і неспакойны з маленства, здольны на подзвіг...»

І тут Коля злавіў сябе на думцы, што ён не смелы. У яго не хапіла сілы волі сказаць, што ён запусціў арыфметыку, што яму патрэбна дапамога. Яму нават стала боязна: «Няўжо я і сапраўды баязлівы? Калі прайду па парэнчах моста, значыць, смелы, — рашыў ён. — А калі не, то... Абавязкова прайду!»

Пасля заняткаў ён пайшоў на рэчку, зірнуў з моста ўніз. Свінцовая вада бурліла каля бакоў. Коля паклаў ранец і ўзяўся за парэнчы.

— Што гэта ты робіш? — пачуўся над яго вухам знаёмы голас.

Хлопчык азірнуўся. Каля яго стаяў сусед па парце Коля Піліпчанка

— Хачу прайсці па парэнчах.

— Ты што, звар'яцеў? Зваліцца можна.

— Калі ты такі баязлівец, — пачаў Коля, але Піліпчанка перабіў яго.

— Смелы знайшоўся! Здаецца, не я, а ты пабаяўся прызнацца Зінаідзе Рыгораўне, што не браўся за задачу? Хто схлусіў ёй, што не было часу? А я бачыў, як ты ўчора ў кінатэатр білеты браў...

Хлопчык нізка апусціў галаву.

— А, можа... я, можа, я не магу... — І загаварыў горача: — Запусціў я арыфметыку, калі яшчэ ў другой школе вучыўся. Вам, мусіць, Зінаіда Рыгораўна расказвае, чаму маці папрасіла, каб мяне перавялі ў вашу школу? — запытальна паглядзеў ён на Піліпчанку. Той адмоўна пакруціў галавой.

— Тады я раскажу сам. — І ён пачаў расказваць, як прапускаў заняткі, як настаўнікі пісалі маці запіскі, а ён, каб паказаць класу, што смелы, зноў браўся за сваё...





А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А





**ЗАДАЧА - ЖАРТ**

Дагаварыліся зайчаняты з мядзведзянятамі ў футбол гуляць. Медзведзяняты гуляюць ветліва, а зайчаняты б'юцца. Давялося суддзі — вожыку назначыць штрафны ўдар у вароты даўгавухіх. Як павінен праляцець мяч, каб не зачапіць ніводнага зайчаняці і трапіць у вароты?

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka". BZGraf. C-3

— Дык хіба гэта смеласць, Коля? Гэта ж... гэта... — ён так і не знайшоў слова, каб сказаць, што гэта такое. А можа, проста пабаяўся пакрыўдзіць аднакласніка.

Разгаварыўшыся, хлопчыкі не заўважылі, як падышлі да кватэры, дзе жыў Коля.

— Ты тут жывеш?.. — здзівіўся Ціліпчанка. — Мы ж амаль суседзі.

— Можа, зойдзем?

Яны зайшлі ў пакой.

Колева маці пачаставала іх смачным абедам. Ціліпчанка не адразу пайшоў дахаты, ні то сур'ёзна, ні то жартам запытаў:

— Можа, за арыфметыку возьмемся? Касманаўты перш за ўсё павінны ведаць матэматыку. А мы ж з табой рашылі, што абавязкова імі будзем!..

Бухаўцоў ахвотна разгарнуў задачнік. Некалькі хвілін моўчкі абдумвалі рашэнне. Потым Коля Бухаўцоў рашуча падняў галаву.

— Я прызнаюся, абавязкова прызнаюся, — сказаў ён. — І ты пабачыш, што я не баязлівец... Прызнаюся, што я вельмі адстаў па арыфметыцы. Але я даганю... Вось пабачыш!

Коля стрымаў свае слова. Ён усё сказаў Зінаідзе Рыгораўне. А праз некалькі месяцаў выканаў і сваё абяцанне. У яго дзённіку па арыфметыцы стаяць пяцёркі. І не толькі па арыфметыцы, але і па геаграфіі, гісторыі, батаніцы, і іншых прадметах. А з Колем Ціліпчанкам яны сапраўдныя сябры.

**С. Анатолеў**

**Каб дрэва спявала**

# БАРАБАН — ТАМТАМ



Нямала розных легенд склалі народы ўсіх часоў і ўсіх краін пра тое, як з'явілася на свеце музыка. І ва ўсіх гэтых легендах паказана любоў народа да музыкі. Бо няма такога чалавека, які б не любіў яе. Як жа нарадзілася музыка? Хто і калі вынайшаў першы музычны інструмент?

Гісторыкі лічаць, што музыка, як і мова чалавека, узнікла сама сабою, калі ў чалавека з'явілася патрэба неяк выказаць не толькі ў жэстах, але і ў гуках свае жаданне, думку, свае пачуцці.

Першабытны чалавек быў дзікім і неразвітым, музыка яго была убогай, аднастайнай, невыразнай. Але міналі стагоддзі, тысячагоддзі, чалавецтва развівалася, а разам з ім развівалася і музыка — станавілася больш выразнай, складанай, багацейшай. І музычныя інструменты мяняліся, удасканальваліся.

Як выглядалі даўнейшыя інструменты? Як на іх ігралі? Ці захаваліся яны? Так, некаторыя захаваліся ў музеях litарадаўнай культуры. Але самыя старажытныя, вядома, знікілі. Тое, што яны некалі існавалі, археолагі ўстанавілі па малюнках і надпісах на грабніцах, на руінах старажытных пабудоў.

Ёсць яшчэ і цяпер такія музычныя інструменты, але іх нямнога, якія вельмі падобны на сваіх аддаленых продкаў. Усім вам добра вядомы барабан, самы просты ўдарны інструмент. Гэты старажытны прабацька музыкі жыў да нашых дзён і нават мала змяніўся. Няма ніводнага аркестра, дзе б не быў заняты барабан. У джазе, у духавым і сімфанічным аркестрах — усюды ён патрэбен. А казакі і ўзбекі выконваюць свае нацыянальныя танцы пад рытмічныя ўдары барабана.



Вельмі шануюць барабана народы Афрыкі. Яны называюць яго «тамтам». У Рэспубліцы Гана ўсе ўрачыстыя цырымоніі і святы суправаджаюцца выступленнямі вядомых майстроў - тамтамістаў. Афрыканцы выбіваюць на тамтамах не толькі асобныя словы, але і цэлыя фразы.

Выходзіць тамтаміст на сцэну і першае, што ён выбівае, гэта заклік да ўсіх слухаць падзяку дрэву: «Слухайце ўсе! Дзякуем табе, дрэва, з якога зроблен там-там, і дрэва, з якога зрэзаны палачкі! Іграць будзе Даку з народа акані...» Ён называе сваё імя. У афрыканцаў тамтамісты карыстаюцца такой самай папулярнасцю, як у нас піяністы або скрыпачы.

Спачатку барабаны служылі першабытным людзям не для музыкі, а для сувязі паміж сялібамі. Пошчакам барабанаў перадавалі ад сялібы да сялібы вестку аб нашэсці, аб вайне, нападзе ворага.

Яшчэ і цяпер афрыканскія плямёны карыстаюцца барабанамі як «бяздротавым тэлеграфам» паміж вёскамі. Толькі нямнога пазней барабаны сталі выконваць і ролю музыкі як акампанементу.

**(Праця́г за тыдзень)**



## Для самых маленькіх






## ЖАЛУДЫ

Набіраю жалудоў,
Высаджу у полі,
Каб лясочак узышоў
І шумеў на волі.

Пройдзе час — і ля ракі,
За высокім жытам,
Зашумяць мае дубкі,
Запяюць нібыта.

Вечар высеяў расу.
Я іду з дубровы,
А ў кішэні я нясу
Цэлы лес дубовы.

**Мікола Алтухоў**



# ЧЭХІ БЯДЗЕ НЕ ЗДАЮЦЦА

Разыходзіцца аб вёску Чэхі Арлянскія, што ў Гайнаўскім павеце. Бо ў Чэхах Арлянскіх сапраўды неспрыяльныя ўмовы да гаспадаравання. Зямлі тут, штоправўда, у гаспадароў нямала, па 15—20 гектараў, але зямля гэтая слабая, амаль усё V і VI клас, да таго зямля ў Чэхах Арлянскіх у цераспалосіцы. Работы пры гэтым усім вельмі многа, а карысці мала.

Гэтыя аб'ектыўныя ўмовы — слабыя глебы і цераспалосіца — не спрыяюць ні ўвядзенню новых, больш сучасных метадаў працы, ні хуткаму павышэнню сельскагаспадарчай вытворчасці.

У Чэхах Арлянскіх надалей пануе трохпольная сістэма, надалей на землях пад папарам (угорам) пасуцца авечкі, якіх кожны гаспадар мае прынамсі па некалькі, надалей праз усё лета не корміцца кароў; жывуць яны за тым, што наскубаюць на скупых супольных пашах.

— Ці ёсць у вас злеўня малака? — пытаю я сакратара сельскагаспадарчага гуртка ў Чэхах Арлянскіх, Аляксея Данілюка.

— А навошта? — пытаннем адказвае Данілюк, — у нас малака няма, ледзь сабе хапае.

— Ды вы ж сказалі, — дакучаю я, — што ў вашай вёсцы кожны гаспадар мае некалькі кароў, хіба ж іх не дояць?

З далейшай гутаркі даведваюся, што каровы ў Чэхах Арлянскіх гадуюць не толькі для малака, колькі для ўгнаення слаба ўраджайных палёў.

У 1962 годзе ў гэтай вёсцы пачаў дзейнічаць сельскагаспадарчы гурток. Неўзабаве ў Чэхах Арлянскіх паявіліся некаторыя сельскагаспадарчыя машыны: малатарні, сеўнікі, якімі пачала карыстацца ўся вёска.

Асноўным клопатам гаспадароў з Чэхаў Арлянскіх з'яўляецца недахоп корму для жывёлы. Недахоп гэты сяляне з Чэхаў стараюцца найчасцей напоўніць праз пакупку сена ў іншых вёсках. Сельскагаспадарчы гурток пастанавіў развязаць справу па-свойму, больш па-гаспадарску.

Праўленне гуртка папрасіла менавіта ў грамадскай радзе нарадовай у Кляшчэлях 6 гектараў бескарыснай, парослай карчамі зямлі, якая знаходзіцца ў Кляшчэлях на канцы дзяржаўнага фонду зямлі. Члены сельскагаспадарчага гуртка давялі гэтую зямлю да парадку, засеялі на ёй траву і зрабілі прыгожую сенажаць. Гуртко ўцаў каштавала гэта 12 тысяч злотых і каля 300 гадзін працы грамадскім чынам. І вось, калі сенажаць была ўжо даведзена да парадку, аказалася, што на частку гэтай зямлі (2 гектары) ёсць уласнікі. Такім чынам з прычыны лёгкадумных рашэнняў грамадскай рады ў Кляшчэлях сельскагаспадарчы гурток ў Чэхах Арлянскіх увайшоў у судовыя справы за 2 гектары даведзенай імі да парадку зямлі.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы гаспадаравання, сяляне з Чэхаў Арлянскіх не здаюцца. Як могуць і ўмеюць, стараюцца павысіць прадукцыйнасць сваёй зямлі, палепшыць сваё жыццё. Штораз часцей на палях паяўляюцца сельскагаспадарчыя машыны: касілкі, сеўнікі і г.д., штораз больш штучных угнаенняў прывозяць сяляне з кляшчэлеўскага ГС-у. А калі хто з гаспадаркі не зможа заспакоіць сваіх патрэб, ідзе працаваць на чыгунку.

Адным з клопатаў сялян з Чэхаў Арлянскіх з'яўляецца цесны школьны будынак. Быў ён пабудаваны ўласнымі сіламі сялян яшчэ ў 1947 годзе і на той час быў зусім дастатковым. Зараз аднак дзеці ў ім не змяшчаюцца і школьныя ўлады вымушаны наймаць у гаспадароў памяшканні на школьныя залы. Улічваючы цяжкасці ў пабудову новай школы выключна сродкамі дзяржаўнага фонду, сяляне абавязаліся пакрыць 50% коштаў пабудовы школы. Ападаткаваліся яны добраахвотна па 200 злотых ад сямейства, а апрача таго прымаюць грамадскім чынам удзел ва ўсіх працах пры пабудове новай школы. Такім чынам пры супольнай добрай ахвоце Чэхі Арлянскія будуць мець новы школьны будынак, які будз . адпавядаць узрастаючым патрэбам вёскі. (п)



Гайнаўка. Жыллёвыя дамы на вуліцы Леніна. Фота А. Казёл

## Сельская гаспадарка без таямніц

Маем ў ваяводстве звыш 180 тысяч сельскіх гаспадарак. Кожная з іх — гэта меншая або большая майстэрня, гэта свайго роду прадукцыйна-гандлёвае прадпрыемства. Яе ўзровень, а таксама вынікі залежаць галоўным чынам ад ведаў і ўмеласці гаспадара, ад прымянення сучасных сродкаў вытворчасці і тэхналагічных метадаў.

Сучасны земляроб павінен ведаць не толькі як араць, сеяць, збіраць. Неабходным фактарам з'яўляецца таксама ўменне праводзіць калькуляцыі, рацыянальнага выкарыстання машын, угнаенняў, сродкаў аховы раслін. Бо, напрыклад, мінеральныя ўгнаенні (азотняк) могуць прымяняцца ў барацьбе з пустазеллем. Найлепшы гной раскінуты па полі (што з'яўляецца частаю з'яваю на Беласточчыне) і не прыараны на працягу некалькіх дзён траціць нават 3/4 азоту. Кепска зробленае ворыва, у час якога выцягнута наверх тзв. мартвіцу, напэўна будзе прычынаю зніжэння ўраджаяў.

Адсюль просты вывад: сёння трэба ўмець гаспадарыць. Трэба добра авалодаць тайнікі сельскагаспадарчых ведаў. Найлепшай аказіяй да гэтага ёсць масавае сельскагаспадарчае навучанне, якое праводзіцца ад мінулага года курсаваю сістэмаю.

Менавіта нядаўна пачаўся другі год навукі для звыш 40 тысяч гаспадароў. Абазначае гэта, што ў сярэднім кожная чацвёртая вёска з'яўляецца навучальным пунктам, не лічачы самаадукацыйных пунктаў. Да вядзення заняткаў вызначана амаль 1500 лектараў. Штораз часцей карыстаюцца навуковымі дапаможнікамі. Адным словам — маем умовы для распаўсюджвання сучасных метадаў да вядзення гаспадаркі.

### ВУЧНІ Ў КАЖУХАХ

У гэтым годзе распрацавана асноўную тэматыку для ўсіх навучальных пунктаў. Ахоплівае яна 12 галоўных тэм. Іншыя могуць быць уключаны ў праграму паводле мясцовых патрэб. Напрыклад, у Гайнаўскім павеце мэтанакіраваным было б шырэйшае абмеркаванне пытанняў лясной гаспадаркі, а ў Сакольскім павеце — гаспадаркі на лёгкіх глебах (кантрактацыя збожжа).

У ІІ навучальным годзе маем найбольш тэм з гадоўлі. Прадугледжваецца абмеркаванне пытанняў звязаных з адкормліваннем маладога быдла, якое прызначаецца на забой, выхоўваннем цялят, ветэрынарнаю дапамогаю ў нечаканых выпадках, павелічэннем малочнасці кароў, гадоўляю свіней, авечак, птушак, а таксама заагігіенаю. Іншыя тэмы адносяцца да вырошчвання збожжавых і прамысловых раслін, а таксама да забеспячэння раслін перад шкоднікамі, пустазеллем і хваробамі.

Вопыты мінулага года паказалі, што сістэма курсавага навучання здае экзамен. Гэта з'яўляецца як быццам бы пачатковай школаю спецыялістычнай падрыхтоўкі, якая дае мінімум сельскагаспадарчых ведаў і якая ўзбуджае зацікаўленне ў слухачоў. Да 1970 года ўсе сяляне Беласточчыны павінны закончыць курсы сельскагаспадарчага навучання. Яно з'яўляецца абавязковым.

«Ніва» жадае далажыць сваю «цаглінку» да гэтай вялікай працы і таму ў бліжэйшых нумарах будзе друкаваць матэрыялы, якія прыдадуцца не толькі ўсім удзельнікам навучання, але таксама і тым, хто не будзе ўдзельнічаць на занятках у гэтым годзе. Гэтыя артыкулы будуць абапірацца на нашыя вопыты, аналізаваць пэўныя з'явы і намячаць заданні беластоцкай сельскай гаспадаркі.

Інж. М. Сухажэбрскі

# Atrakcyjny konkurs „NIWY" dla zbierających prenumeratę na 1966 r.

REGULAMIN KONKURSU

1. W konkursie mogą brać udział wszyscy pracownicy Przedsiębiorstwa Upowszechniania Prasy i Książki „Ruch" oraz doręczyciele pocztowi (listonosze) i inni prac. pocztowi.

2. Konkurs trwać będzie do dnia 15 grudnia 1965 r.

3. Warunkiem uczestniczenia w konkursie i zakwalifikowania się do udziału w przyznaniu nagród jest zdobycie każdej następnej rocznej prenumeraty tyg. „Niwy" od stanu posiadanego przez daną placówkę na dzień 1.X.1965 r.

4. Do ubiegania się o nagrodę będą mieli prawo uczestnicy konkursu, którzy nadeślą do organizatorów konkursu tj. Redakcji tyg. „Niwa" lub Przedsiębiorstwa Upowszechniania Prasy i Książki „Ruch" do dnia 30 grudnia br. kartę uczestnictwa wg. załączonego wzoru — potwierdzoną przez upt. lub kierownika Oddziału (Delegatury) „Ruch".

5. Pierwsze 3 nagrody zostaną przyznane tym uczestnikom konkursu, którzy zdobędą co najmniej 50 nowych rocznych prenumeratorów. Wszyscy pozostali uczestnicy konkursu wezmą udział w losowaniu 10 cennych nagród rzeczowych.

6. Organizatorzy ustalają następujące nagrody:

I — 1000 zł
II — 800 „
III — 600 „

Ponadto ustala się 10 nagród do rozlosowania w wysokości od 150 do 350 zł.

7. Dla Dyrektora OUPIT lub kierownika Oddziału (Delegatury) „Ruch", na terenie którego uczestnicy konkursu przyjmą największą liczbę nowych rocznych prenumerat Redakcja tyg. „Niwa" ufunduje po 1 specjalnej nagrodzie.

8. Wszystkie nagrody wręczone zostaną uczestnikom konkursu w postaci bonów towarowych.

9. Oceny i podsumowania wyników konkursu dokona komisja, w skład której wejdą przedstawiciele Red. tyg. „Niwa", PUPiK „Ruch' i OUPiT.

10. Ogłoszenie wyników konkursu nastąpi do dnia 15. I.1966 r.

KARTA UCZESTNICTWA

w konkursie na roczną prenumeratę tyg. „Niwa"

Imię i nazwisko ..........................................

Rodzaj pracy: doręczyciel, prac. poczt., prac. „Ruchu", Urząd. PT (Oddz.-Deleg. „Ruch" (niepotrzebne skreślić)

w ............................ pow. ............................

Zawiadamiam, że w okresie do dnia 15.XII.1965 r. zjednałem następującą ilość rocznych prenumeratorów na 1966 r.

..........................................

Stan prenumeraty na terenie mojego działania wynosił w dniu 1.X.1965 r. ............................ egz.

..........................................
(podpis uczestnika)

Potwierdza się, że powyższe dane zgodne są z rzeczywistością i zostały przyjęte do realizacji.

............................ dnia ............................

..........................................
podpis i pieczęć OUPiT(upt) lub kierownika Oddz. (Deleg.) „Ruch"

У салоне мастакоў

## Зарысы з-над вады

Антон Шыманюк прадстаўляе нам на выстаўцы ў салоне саюза Польскіх мастакоў у Беластоку свае карціны-зарысы з-над Сана і Нарвы. Карціны паўсталі, як вынік падарожжа аўтара гэтымі рэкамі. Цікавяць сваёй нажыва пераказанай свежасцю. Сам Антон Шыманюк — мастак ужо заавансаваны. Яго карціны бачылі многія гарады краіны на чале з Варшавай. У Беластоку — гэта яго другая індывідуальная выстаўка. (вл)

Саколка-дзіцячы сад



Фота А. Казёл

# Гумар і сатыра

З даваеннага

## Пісар і мужык

Пісар шоў у ботах новых,
Аж тут лужа па дарозе,
Вось дзе гора і бяда:
Ботаў вымачыць шкада.

Тут мужык яму папаўся,
Шапку зняў і прывітаўся,
Й просіць пісар: «Галубок,
Як дабрацца на той бок?»

Падыйшоў мужык да лужы, —
Дагадзіць ён быў дасужы,
Узяў пісара на плечы,
Ад натугі толькі крэхча.

— «Дзякуй, мой ты галубок,
За ту працу, мой браток,
Я ніколі не забуду,
Як ізноў служыць я буду!»

— Хіба пан ужо ня služа»? —
Запытаў мужык дасужы.
— «Вось сягоння ёсць загад,
Каб я выехаў назад...»

Як пачуў мужык навіну,
Кінуў пана ў лужу з спіны,
Сярод самай глыбіны
Між балотнай трасіны.

— «Я пранёс цябе паўлужы,
Бо ня знаў, што ты ня служыш.
Дык прыду канчаць насіць,
Як пачнеш ты зноў служыць.»

П. Маслоўскі

Без слоў

Без слоў

### РАСТЛУМАЧЫЎ

— Пяць гадоў ты жанаты, і ніводнай спрэчкі? Чым растлумачыць гэта?

— Ці ведаеш, з першага дня жаніцьбы мы з жонкай прынялі такое рашэнне: адзін дзень яна робіць усё, што ёй захочацца.

— А на наступны дзень?

— На наступны дзень я раблю ўсё, што хоча яна.

### СУПАКОІЎ

Праваднiца: — Грамадзянін, калі ласка, не курыце!

Курэц: — Не хвалюйцеся вельмі — я не ў зацяжку.

### ШТО ГОРШ

— Для акцёра няма нічога больш, што нервавала б, чым гукі крокаў гледачоў, якія ўваходзяць у залу ў час прадстаўлення.

— Не, ёсць штосьці і больш горшае

— Што?

— Гукі крокаў гледачоў, якія выходзяць з залы.

### КУР'ЁЗЫ

У адным вельмі ціхім раёне штата Паўднёвая Караліна непадалёку ад шашы ўстаноўлены камень з надпісам: «На гэтым месцы ніколі нічога не здарылася».

### Між намі

Заблудзіцца можна не толькі ў трох хвоях, але і ў чатырох сценах.

Без слоў

## Камета

— Бачыш?

— Што?

— Хвост!

— Хвост не бачу, толькі рогі.

— Якія рогі?

— Каровячыя, во, морда ў хляве!

— Я аб камеце кажу, а не аб карове.

— «Камета» гэта Міронава кабыла.

— Гавару аб нябеснай камеце, у яе галава бы капуста, а хвост пушысты як у ваверкі.

— Камета мае крылы?

— Толькі хвост

— Дзіўна, карова з хвастом, але не лятае, а камета...

— Злазь з каровы! Камета ляціць з хуткасцю паўтара мільёна кіламетраў у гадзіну і будзе зноў яе відаць каля сонца праз тысячу гадоў.

— Часу ўдастатак, другім разам пабачу камету.

— Цяпер ляціць камета да сонца.

— Ляціць куды цяплей.

— Калі ўдарыцца, дык сонца разляціцца хіба на пару кавалкаў.

— Ах, як добра! Адно сонца будзе свяціць у акно, другое ў бакавыя вокны, а трэцяе бяліць палатно на лузе. Скажы, адкуль бяруцца каметы?

— Гэта адкрылі японцы і назвалі Секі Ікейя

— Японцы хітрыя на выдумкі. Як думаеш, ці камета гарачая?

— Вогненная, усё спаліць.

— Вось дык будзе работы для нашых пажарнікаў, а ў іх бы на зло кадушкі цякуць.

— Бондар патрэбны.

— Кадушкі папраўляюць і чакаючы пажару зноў рассыхаюцца. А, калі б пажарнікі помпаю залілі камету?

— Пара бухне такая як ад дзесяці паравозаў. Учора Якім бачыў камету, ляцела, а хвост у яе адарваўся. Камета вярнулася, прычапіла хвост і далей паляцела.

— Якім многа чаго бачыць, таму што ён рэдка калі бывае цвярозым.

— Ромак! Куды цябе халера панесла!? — закрычала маці

— Я на гары, гляджу цераз дах на камету.

— Злазь к чортавай маціры!

— Гэта значыць, злазіць да цябе?

— Злазь, бамбіза, каровы бушуюць у гародзе, а ты заслёп, нічога не бачыш!

— Не я заслёп, а каровы: што гэта яны думаюць, хіба не бачаць, што ў шкоду палезлі.

— Зараз я паклічу бацьку, ён адвучыць цябе мондрыцца.

Сястра сказала:

— Злазім, Ромак, а то будзе крык. Бацьку карова даражэй каметы.

Дзядзька Лявон

## ... і апалоніка

Трэба заўсёды памятаць, што свет паняццяў розны.

*

Калі добрыя ўчынкі становяць рэчавы доказ зла — найбольш церпіць справядлівасць.

*

Гегемонію сучаснасці твораць адказныя людзі, сярод якіх таксама бываюць бракаробы.

*

Найлепшая рэабілітацыя нават часткова не выраўняе аднесенай крыўды.

*

Найлепшым выраўнаннем крыўды ёсць шчырае прабачэнне.

# Усячына

Усё людское нам не чужое.

## За штурвалам — бабуля

Васьмідзесяцігадовая англічанка Гобдай вырашыла навучыцца пілатажу ў адным з авіацыйных клубаў. Мара гэта ўзнікла ў яе яшчэ ў 1927 годзе, калі яна ўпершыню лятала на самалёце. Але ажыццявіць яе не ўдалося, паколькі трэба было выхоўваць дзяцей, а затым пяцёра унукаў. Гобдай аказалася вельмі здольнай вучаніцай. Яе інструктар кажа, што яна «прыродная» пілотка. На здымку: Гобдай за штурвалам самалёта.

### ГАСЦІННАСЦЬ

Выйшла на ганак гаспадыня і крычыць мужу:

— Госці прыехалі!

А каб суседзі пачулі і не падумалі, што яна скупая, пытае:

— Колькі збіць яек на яечню, пяць ці болей?

— Збі паўтара, а то яшчэ падумаюць, што мы бедныя.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Веры М.** і **Галіны С.** з Сакольшчыны змяшчаем беларускую жартоўную песню:

## ДЗВЕ ТАПОЛІ

Дзве тапол ў чыстым полі
Абняліся,
Там Ірына і Галіна
Пакляліся.
Пакляліся жыць у згодзе,
Жыць у працы,
Толькі замуж не выходзіць.
Не кахацца.

Колькі разам песень звонкіх
Праспявалі,
Але клятвы ўсё ж сяброўкі
Не стрымалі...
У Галіну Стась вясною
Закахаўся,
Хлопец добры — і самой ёй
Спадабаўся.

А у летнюю часіну,
На Купала,
Яся горача Ірына
Пакахала.
Неўзабаве пасля жніва
У нядзелю,
Адгулялі мы шумліва
Два вяселлі.
Дні прыходзяць, дні адходзяць
Залатыя...
Ой, прыгожы! Ой, вы, годы
Маладыя!